Постскриптум

# Если бы не президент, то никто и не знал бы, что в августе нужно убирать хлеба, а в сентябре – картошку

*В зарубежье вновь заговорили о Лукашенко. На этот раз в связи с селекторно-телевизионной битвой за урожай. Как известно, днями президент страны устроил перекличку "вертикальщиков" о ходе уборочных работ, а кое-кому — и публичную порку. В Европе уж давненько не слышали о таком методе управления экономикой. Поэтому за бугром удивились и улыбнулись. Давайте и мы посмотрим на это событие с разных точек зрения.*

Мнение обозревателя

## Изобилие продуктов там, где не проводят подобных совещаний

Итак, принесет ли пользу этот селекторно-телевизионный [illegible]? Ответ на поставленный вопрос мы узнаем зимой. Посмотрим, прибавится ли продуктов, снизятся ли цены на них. На мой же взгляд, ждать этого наивно. Скорее, продуктов в магазинах не прибавится, а вот цены на них подскочат. Ждать от таких спектаклей улучшения жизни — это то же самое, что и молока от кота.

Подобные методы управления в моде на Кубе и в Северной Корее. Изобилием там и не пахнет, а корейцы вообще на грани голода. И у нас в прошлые годы первые секретари компартии пытались методами селекторного нагоня решить продовольственную проблему. Не вышло.

Изобилие продуктов там, где не проводят таких совещаний и где нет колхозов и совхозов, а есть настоящие хозяева на земле. Там ломятся полки магазинов от изобилия продуктов. Правительства этих стран обращаются с просьбой к земледельцам: не производите больше продуктов, ибо их и так уже многовато.

Никто пока не задумался и у нас проводить подобные совещания на дачах или с сельчанами по поводу уборки их приусадебных участков. Такое мероприятие вызвало бы только смех. При любой погоде, любых условиях старики всегда все убирают вовремя на своих дачах и своих приусадебных участках. Потому что этот урожай — их, они убирают его для себя и своих семей. И поэтому не нуждаются в нагоне.

На таких же принципах организовано дело в Америке и Европе. И поэтому там всегда с хлебом и селекторно-телевизионных порок земледельцев не существует.

Казалось бы, яснее ясного: и у нас в стране надо организовать дело таким же образом. Тогда не понадобились бы эти телевизионные разборки, а страна была бы обеспечена всеми продуктами.

Пусть извинит меня президент за резкость, но, я считаю, он не способен на это. Он лишь помнит, как ранее налаживали вот такие порки и нагоняи с тех пор, когда был директором совхоза, и теперь лишь дублирует те никудышные методы.

Но польза от этого совещания все-таки будет. Ему одному. Электорат с гордостью скажет: "А батька-то во как сражается за хлеб!" Видимо, с этой целью и налажен этот спектакль.

**Евгений ТАВГЕНЬ.**

Грустно-иронический взгляд

## Молитвенник перед выходом на уборку

Казалось бы, после того как разогнали Верховный Совет, прогнали послов и приструнили по телевизору профсоюзных жуликов, в стране уже не должно быть врагов. Но незаметно подкрался очередной и пытается помешать убрать урожай. Поэтому народный президент провел селекторное совещание и призвал всех на битву за урожай, которая продлится до первого сентября. Он также сообщил, что облетел на вертолете поля и увидел, что в Минской и Могилевской областях выращен хороший урожай, но кое-кто еще не вступил в битву за него.

А битва ожидается сложная. Ибо враг коварен. Его никто нигде не видел, но проявляется он то в виде неожиданного дождя, то в виде поломки комбайна, а то и в виде нежелания некоторых идти в бой за хлеб. И потому Александр Григорьевич принародно изложил принципы битвы за урожай с новым коварным врагом.

Теперь остановимся на них подробнее. Но вначале хочу внести предложение издать их отдельной брошюрой как цитатник или молитвенник всех "вертикальщиков" и землепашцев перед очередной уборкой. Ведь в Китае в свое время издавали цитатник кормчего Мао. Почему бы и нам не повторить опыт единомышленников. Тем более что в рекомендациях народного президента содержатся в сжатом виде причитания всех первых секретарей компартии Беларуси, которые они произносили как заклинания на каждом "историческом" съезде или пленуме.

Итак, Александр Григорьевич в ходе селекторного совещания дал своим министрам, руководителям областей, районов и колхозов следующие ценные и глубокие указания: "Немедленно надо решать проблемы", "Обратить внимание на своевременную уборку льна", "В сентябре будем убирать картошку".

Здесь я вынужден прервать цитирование и дать пояснения к этим основополагающим принципам. Ведь многие считают, что лен — это не рожь и не смородина, поэтому и убирать его можно и несвоевременно. Потому и опаздывали с уборкой. Теперь же, после президентского разъяснения, все знают, что и лен тоже надо убирать вовремя.

Глубоко указание и по срокам уборки картошки. Ведь если начать массовую копку ее в июле, то клубни окажутся величиной, как зерна, а если рожь убирать в сентябре, то зерна могут оказаться на месте клубней. Вот в чем уборочная петрушка! Поэтому вполне гениально поставлена цель всем навалиться на рожь, а уже потом, в сентябре, начать битву и за картофель, а не наоборот.

Переходим к дальнейшему цитированию глубоких указаний президента: "На отвозку зерна надо бросить лучшие автомобили", "Ни в коем случае нельзя тянуть с уборкой", "Мы не должны потерять хлеб", "Нам не на кого рассчитывать, кроме как на самих себя". Рассмотрим хотя бы последний тезис. Некоторые, видимо, считают, что на наши поля приедут поляки или американцы и уберут за нас наш хлеб, поэтому и ведут пассивный бой за урожай. С такими настроениями надо кончать и активно включаться в битву.

Не могу удержаться по поводу "переброски лучших автомобилей". Ведь многие могут бросить их и на заготовку кормов. Поэтому напоминаю еще раз: лучшие автомобили — только на перевозку зерна. На перевозку же молока, кормов можно и худшие, и даже сломанные.

Теперь, надо полагать, все министры, руководители регионов и хозяйств получили знания, которых им не дали в институтах и которых они не смогли приобрести в ходе многолетней практики. Теперь и они знают, что "лен надо убирать своевременно", "картошку надо убирать в сентябре" и "ни в коем случае нельзя тянуть с уборкой", ибо уборка — это вам не хвост кота, который можно тянуть сколько хочешь.

Надо отметить, что и руководители областей тоже кое в чем просветили президента. Они сообщили, что местами прошли дожди, не мешало бы подбросить деньжат в виде технического кредита и бензинчику.

Не обошлось и без провокаций. Некоторые товарищи с мест утверждали: да, дожди идут, комбайны ломаются, но все свои проблемы мы решаем самостоятельно. Улавливаете намек? Дескать, мы и сами с усами и обойдемся без указаний "батьки". Отсюда всего один шаг до заявления: "А на хрена нам эта совещалка?". Понятно, что народный президент на такие выпады реагировал моментально: "Хорошо, я подъеду, посмотрю". И подъедет, и посмотрит, и можете не сомневаться, что откопает вредителей, как бы тщательно они ни замаскировались. Чтобы все видели, как "батька" болеет за хлеб и за народ.

А то, что хлеба будет нынче поменьше, а цена на него повыше, так уже и дураку ясно. Но зато врагам президента не удастся упрекнуть его и за малость хлеба, и за высокую цену на него. Ибо все видели по телевизору, как он боролся за хлеб.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**

# В юридической консультации Михаила Пастухова



## Кому вести документацию на государственном предприятии?

*Как постоянный подписчик Вашей газеты прошу дать следующие разъяснения: кто на государственном предприятии имеет право определять круг лиц, с которыми заключаются договоры о материальной ответственности и кто по должности должен вести документацию с договорами о материальной ответственности?*

*У нас на предприятии данную работу возложили на отдел кадров, и в этой связи у меня возникли сомнения: правильно ли это?*

*В.Афанасьев,*

*Г.Мозырь.*

Ответ на первый вопрос Вы найдете в постановлении Госкомтруда от 8.10.93 г. №81. Этим постановлением утверждены: Примерный перечень должностей и работ, замещаемых или выполняемых работниками, с которыми нанимателем могут заключаться письменные договоры о полной материальной ответственности, Примерный договор о полной индивидуальной материальной ответственности и Положение о коллективной (бригадной) материальной ответственности. (Эти правовые акты опубликованы в Бюллетене нормативно-правовой информации №11—12 за 1993 год.)

Со вторым вопросом определенности меньше. Дело в том, что в вышеназванных документах не сказано о том, кто конкретно из должностных лиц должен вести работу по заключению договоров о материальной ответственности. Нет ответа на этот вопрос и в Законе Республики Беларусь "О бухгалтерском учете и отчетности". В статье 10 данного Закона отмечается, что "принятие, перевод, перемещение и увольнение работников, с которыми заключаются или заключены письменные договоры о полной материальной ответственности, производится по согласованию с главным бухгалтером или лицом, заменяющим его".

Из этих норм следует, что ведение документации с договорами о материальной ответственности на предприятии могут возложить как на бухгалтерию, так и на отдел кадров.

## Сколько можно иметь земли?

*Я имею в деревне дом родителей. Какой земельный надел я могу иметь? И есть ли закон, который предоставляет право на дополнительный надел земли?*

*Ф.Дейко,*

*г.Сморгонь.*

Согласно статье 54 Кодекса о земле, гражданам Республики Беларусь для строительства и обслуживания жилого дома в пожизненное пользование предоставляются земельные участки в следующих размерах: в городах (поселках городского типа) — от 0,05 до 0,15 гектара, а в сельских населенных пунктах — от 0,15 до 0,25 гектара.

Гражданам, проживающим в сельских населенных пунктах, курортных и рабочих поселках предоставляются в пожизненное наследуемое владение дополнительные земельные участки для ведения личного подсобного хозяйства в размерах до 1 гектара с учетом площади земельного участка, имеющегося при доме. Конкретные размеры участков устанавливаются соответствующим исполнительным и распорядительным органом в зависимости от местных условий и особенностей. Отказ в предоставлении земельного участка может быть обжалован в судебном порядке.

Кроме того, гражданам, имеющим в собственности скот, предоставляются в пользование земельные участки для сенокошения и выпаса скота (в редакции Закона от 31 декабря 1997 года — Ведомости Национального собрания Республики Беларусь 1998, №1, ст.3).

## Как установить, что человек страдает психическим расстройством?

*Моему сыну 45 лет. Он злоупотребляет алкоголем. В январе месяце он потерял сознание и попал в больницу. После выхода оттуда я стала замечать, что у сына не все в порядке с головой. Его действия не соответствуют действиям нормального человека, а поступки непредсказуемы.*

*Как мне поступить и к кому обратиться со своим горем?*

*А.С.,*

*г.Орша.*

На этот счет имеется указание в Законе "О здравоохранении" от 1993 года. Согласно статье 31 закона, граждане, имеющие выраженные психические расстройства либо заболевания и представляющие опасность для окружающих или ущемляющие законные права и интересы других лиц, а также совершающие действия, представляющие опасность для их жизни и здоровья либо в силу болезненного состояния не удовлетворяющие свои жизненные потребности, могут быть в порядке неотложной психиатрической помощи госпитализированы в психиатрическое (психоневрологическое) учреждение без их согласия, без согласия родственников или иных законных представителей. Порядок госпитализации и оказания медицинской помощи гражданам, страдающим психическими расстройствами и заболеваниями, устанавливается Министерством здравоохранения Республики Беларусь.

Вам следует обратиться в психиатрическое (психоневрологическое) учреждение по месту жительства и просить освидетельствовать сына комиссией врачей-психиатров.

## У граждан России и Беларуси права разные

*В 1948 году я в пятилетнем возрасте вместе с родителями была депортирована из Литвы в Сибирь. Сейчас вместе с мужем живу в Беларуси.*

*Хотела бы знать, положены ли мне какие-нибудь льготы к пенсии?*

*Замечу, что мой брат живет в Воронежской области и ему как члену семьи бывшего репрессированного выплачивается добавка к пенсии в размере 50% и предоставлено право на бесплатный проезд. Мне же при оформлении пенсии в горсобесе отказали в каких-либо льготах и сказали: "Нечего из себя героев делать".*

*Сейчас по телевизору часто слышу, что после подписания Союзного договора граждане России и Беларуси пользуются одинаковыми правами. Так ли это?*

*М.Гярвите,*

*г.Жлобин.*

Как Вы и предполагаете, это далеко не так. Законом Республики Беларусь "О пенсионном обеспечении" 1992 года (с изменениями и дополнениями) надбавки к пенсии для такой категории граждан, как Вы, не предусмотрены. А специального соглашения о единых подходах к пенсионному обеспечению граждан Республики Беларусь и Российской Федерации не принято.

Вам остается только порадоваться за своего брата, которому государство хотя бы частично компенсировало вред, причиненный вашей семье в 40-е годы. Думаю, что и Вы должны иметь право на соответствующую компенсацию. Но для этого нужна добрая воля государства.



## Ці можна купіць кватэру ў Мінску былому беларусу?

*Мой зяць у мінулым — ваенны лётчык. Служыў на Далёкім Усходзе, Курылах, у Калінінградскай вобласці. Калі Беларусь стала незалежнай, ён прыязджаў у Міністэрства абароны, хацеў перавесціся на службу ў Беларусь. І зяць, і дачка — беларусы, нарадзіліся ў Мінску, аднак у пераводзе яму было адмоўлена.*

*Цяпер зяць у адстаўцы, атрымаў квартэру ў Курску, дзеля якой яны і засталіся ў Расіі. Калі ласка, растлумачце, ці могуць яны купіць кватэру ў Мінску?*

*С.Р.Бусько,*

*Мінск.*

Купіць кватэру ў Мінску могуць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, чужаземцы і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь і якія займаюцца на законных падставах працоўнай, гаспадарчай і іншай дзейнасцю.

Да гэтага часу дзейнічае Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), зацверджанае Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 жніўня 1993 года №589 (гл.Збор Пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1993, №25, арт.486.)

Сітуацыя не змянілася пасля таго, як Канстытуцыйны суд сваім рашэннем ад 27 чэрвеня 1996 года прызнаў, што гэтае Часовае палажэнне ў адпавядаючай частцы супярэчыць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, неканстытуцыйнымі суд прызнаў нормы аб тым, што права на набыццё кватэры ва ўласнасць шляхам куплі маюць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на яе тэрыторыі. (гл.Веснік Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. 1996, №3, арт. 45—48.)

У сакавіку 1997 года новы склад Канстытуцыйнага суда даў тлумачэнне гэтага рашэння суда і пацвердзіў, што грамадзяне Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і пастаянна пражываючыя за межамі рэспублікі, маюць права набыць кватэры (дамы) па дагаворы куплі-продажу ў любых населеных пунктах Рэспублікі Беларусь. Разам з тым, на думку суда, законам могуць быць вызначаны асаблівасці куплі-продажу кватэр-дамоў у Мінску, паколькі Мінск як сталіца Беларусі мае асаблівы статус. Што тычыцца замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія не пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, то яны маюць права набываць кватэры (дамы) у Рэспубліцы Беларусь "у адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі і ўстаноўленай працэдурай рэалізацыі норм міжнародных дагавораў". Атрымліваецца, што дачка і зяць не могуць купіць кватэру ў Мінску. Але яны могуць пры жаданні і магчымасці абмяняць сваю кватэру ў Курску на Мінск. Для гэтага ім трэба звярнуцца ў адну з фірм, якія займаюцца пошукам варыянтаў іншагародняга абмена кватэр.

"Забойные" новости

## Труп... гомосексуалиста... солдат покрыл... колоском

*На Кавказе прямо на могиле мужа застрелили вдову, которая перед этим якобы и заказала его убийство. В Швецию на свою олимпиаду съехались геи и лесбиянки, а просвещенные европейцы с наслаждением любовались почти голыми торсами представителей сексуальных меньшинств. В России десантники по случаю своего праздника хлебали дешевую водку из горла, а телекамеры умильно показывали стране пьяные рожи героев Воздушно-десантных войск. В Беларуси президент сделал сногсшибательное заявление о том, "что все живое, все, что движется или способно двигаться, должно быть направлено на уборку урожая...".*

Параллели

## Налетай, подешевело: кому пуля, кому геи, кому хлеб, кому десант

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель "Народной воли".**

Эти события последних дней не связаны ни географически, ни логически, ни политически. Новости объединяет чувство... отвращения к ним. К таким сюжетам привлекают наше внимание, как будто именно это имеет сегодня важнейшее значение в жизни народов. Выбор, с точки зрения обывательского восприятия, безошибочный: речь идет о смерти и сексе, о хлебе и армии. А вот как насчет нравственности, традиций и духовных ценностей народов?

Следует ли верить, что нынешние кавказские джигиты делом чести считают убийство безоружных женщин? Надо ли думать, что многочисленные народности Северного Кавказа отменили законы как таковые и отныне безропотно подчиняются лишь самосуду? Знать ли наперед, что в горячем регионе на века воцарилась слепая и жестокая сила оружия? Вещая о кровавых разборках, никто и не пытается ставить такого рода вопросы.

А все-таки не верится, что обыкновенная земная любовь между мужчиной и женщиной утратила актуальность для старушки-Европы. Не думаю, что зрелище спортивных игрищ "голубых" и "розовых" так уж восторгает почтенных швейцарцев, французские семьи, немецких деятелей, итальянскую общественность. И знаю наперед, что нынешние суперсовременные и будущие совершеннейшие искусственные и опосредованные способы воспроизводства человеческих детенышей для однополых партнеров, называющих себя семьей, — ветвь развития деградирующая. Однако и просвещенные западные комментаторы не заикаются о содержании факта.

На период уборочной страды для народа Беларуси верховная власть опять ввела чрезвычайный режим. Как будто сельчанам не ведомо еще от пращуров, что осенний день год кормит. Как будто без щелканья кнута над головой деревня и не прочухается, и не позаботится о том, что составляет главный интерес ее жизни — не сожнет, не обмолотит, не засыплет в закрома созревший хлеб. Это ж каким недоумком надо считать белоруса-хлебороба, чтобы из года в год в эту пору "взнуздывать" его, как сивого мерина, и гнать в поле! И мало кто осмеливается сказать, как оскорбительны эти кампании для крестьянства.

С телеэкрана развеселый гуляка в полосатой майке и голубом берете исповедался матушке-России: кто, мол, не попал в тюрягу, тот подался в десантники. Таков, стало быть, современный идеал современного солдата мировой (по размерам) державы? Воздушно-десантные войска резвились в парке над Москвой-рекой, а в день их праздника туда не осмелились соваться другие москвичи: как бы родненькие защитнички спьяну да сдуру мирный свой народец не позашибали... Солдаты элитных частей армии воевали со столичной милицией за право плюхнуться в городской бассейн.

О времена, о нравы! Да нет, времена ни при чем. Хорошим или плохим исторический период делают люди. Сколько зверства, пошлости, подлости, гнусности по отношению к себе допускают народы — столько и воздается им. В этом смысле вполне квиты верхи и пресса с одной стороны и низы и читатели — с другой. Следите за последними новостями! Разве вы не достойны тех известий, которыми вас пичкают?

Таланты



## Исполнители собственных песен, ставших народными

В Кожан-Городке Лунинецкого района живут два самодеятельных композитора — инвалид по зрению Андрей Данилович Урбанович и руководитель хора "Полесье" Лунинецкого ПТУ-146 Николай Григорьевич Войтеховский. На счету у каждого более чем по сто песен, которые стали любимыми в народе, ведь многие из них исполняются на эстраде как народные.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

Палеміка

# Я нічога не блытаю,

## або Яшчэ раз аб артыкуле "Фашизм — это когда..."

20 чэрвеня 1998 года "Народная воля" надрукавала водгук Яўгена Філіповіча на мой артыкул "Фашизм — это когда..." ("НВ" ад 21.05.98 г.). Я вельмі рады, што чытачы заўважылі мой матэрыял і разважаюць над яго зместам. Але мяне хвалюе тое, што пры гэтым не заўсёды улоўліваецца той сэнс, які закладзены мною ў артыкул.

Зразумела, асуджэнне фашызму як пачварнай з'явы зроблена даўно. Мая мэта была іншая. Улады на розных масавых мерапрыемствах, з трыбун, тэлевізійных экранаў усё часцей і часцей публічна называюць фашыстамі самых паважаных людзей краіны, якія знаходзяцца ў апазіцыі ўладзе. Гэтае ж падхопліваюць і паўтараюць ачмураныя афіцыйнай прапагандай людзі. Я на свае вушы чыў, як мужчына пенсійнага ўзросту называў Зянона Пазьняка "фашыстам, паліцаем". Я падышоў да яго і спытаў, як гэта мог Пазьняк быць паліцаем, калі ён нарадзіўся толькі ў 1944 годзе? У адказ субяседнік і мяне назваў недабітым фашыстам і паліцаем...

Асабіста для мяне такія людзі, як Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Юры Хадыка і другія — гэта сумленне і гордасць беларускай нацыі, што ўсведамляюць яшчэ далёка не ўсе суайчыннікі. Але будучыня скажа сваё слова.

Самі ўлады на словах асуджаюць фашызм і, як я ўжо казаў, да фашыстаў прылічваюць усіх апазіцыянераў. Гэта мы чулі і ў перадачы на НТВ "Герой дня без галстука".

Вось я і сабраў, як адзначыў Яўген Філіповіч, "усё тое пачварнае і жахлівае, што адбываецца ў краіне", каб давесці: менавіта тыя, хто вядзе краіну да бездані, звальваючы ўласныя грахі на прыдуманых "ворагаў", вядуць вайну супраць уласнага народа і заслугоўваюць асуджэння. Ва ўладзе зараз знаходзяцца фактычна бальшавікі, камуністы — называйце іх як хочаце. А бальшавізм, камунізм, саветызм мае шмат агульных рысаў з фашызмам. Хаця сённяшнія кіраўнікі не называюць сябе бальшавікамі ці камуністамі, сутнасць ад гэтага не мяняецца.

Яўген Філіповіч не пагаджаецца са сцвярджэннем, што "фашизм — это когда притесняется и запрещается родной язык...". Ён лічыць, што "фашысты — гэта група людзей, аб'яднаных адной ідэяй. А ідэя гэта — узнясенне, усхваленне сваёй нацыі, свайго народа за кошт урону, страт другіх народаў". Атрымліваецца так, што раз гэтая група людзей не ўсхваляе свой народ, сваю мову, то і тэрмін "фашызм" тут не падыходзіць. Але ж справа ў тым, што гэта "група людзей" не лічыць беларусаў сваёй нацыяй, сваім народам, а беларускую мову сваёй мовай, Беларусь — сваёй краінай: "Іх адрас — не дом і не вуліца, іх адрас — Савецкі Саюз...".

Менавіта з гэтага боку я і падыходзіў да напісання артыкула. Ва ўладзе знаходзіцца "група людзей, аб'яднаных адной ідэяй — аднаўленне любымі шляхамі Савецкага Саюза, Расійскай імперыі. Не аднаразова даводзілася чуць па расійскім тэлеканале, калі першыя асобы Беларусі, робячы візіты ў расійскія рэгіёны, у сваіх прамовах там вымаўлялі фразы тыпу "мы — русские люди!, "мы — русский народ" і г.д. Яны не лічаць сябе беларусамі, і родная мова для іх — руская.

Вось мы і падышлі да лагічнага канца. "Група людзей", якая знаходзіцца зараз ва ўладзе, усхваляе "сваю нацыю", "свой народ" — гэта значыць рускую нацыю і мову. (Прашу не блытаць гэтае ўсхваленне з павагай, якая павінна існаваць у дачыненні да ўсіх нацый і моў.) І робіцца гэта "за кошт урону, страт другога народа", гэта значыць — за кошт беларусаў, за кошт Беларусі. Для гэтага і былі праведзены рэферэндумы 1995 і 1996 гадоў. Так што, паважаны Яўген Філіповіч, я лічу, што ў выбары загалоўка да свайго артыкула я не памыліўся.

Асудзіць ідэалогію бальшавізму, камунізму, саветызму на ўзроўні Нюрнбергскага працэсу, на жаль, яшчэ не прыспеў час. На СНГоўскіх абшарах яе моц яшчэ вялікая. Вы ж бачыце, як нават у Расіі камуністычныя сілы, засеўшыя ў Дзяржаўнай думе і ў губернатарскіх крэслах, спрабуюць сарваць правядзенне рынкавых рэформ. І з якой пашанай прымаюцца на Беларусі расійскія "красные" губернатары і кіраўнікі старой закваскі, давёўшыя сваё насельніцтва да галечы, свае губерніі да развалу, да заняпаду, як да гэтага даведзена і Беларусь. Гэтыя апантаныя абаронцы мінулага — прадстаўнікі самых розных народаў — аб'ядноўваюцца, вылучаюць сваіх полпотаў, хусейнаў, берыяў, борманаў, гебельсаў. Яны яшчэ прынясуць нам нямала бед. Нюрнбергскі суд для іх яшчэ далёка наперадзе.

Пакуль усё лепшае, усё прагрэсіўнае, гуманнае, дэмакратычнае, усё патрыятычнае і нацыянальнае праследуюць, душаць, арыштоўваюць, судзяць, штрафуюць, шальмуюць, абражаюць... Але ваша права, як і права кожнага, шаноўны Яўген Філіповіч, мець і выказваць сваю думку.

**Ілля КОПЫЛ, пенсіянер.**
**Мінск.**

## Вяскоўцы ў паніцы. Хто ім дапаможа?

Чаму ў нас замоўчваюць тыя беды, якія прынесла стыхія? Пра гібель ураджаю, рыбы, пашкоджанне пабудоў? На думку кіраўніка прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Сяргея Іванова так робіцца дзеля таго, каб "не абвастраць абстаноўку". Але яшчэ горш тое, што не прымаюцца належныя захады па аказанні дапамогі пацярпелым.

Сам Сяргей Іваноў наведаў Жыткавіцкі раён. У трох гаспадарках, дзе ён пабываў, затоплены бульбяныя палеткі. Людзі проста ў паніцы і плачуць, як яны будуць жыць. Бо бульба — гэта не толькі асноўны прадукт для сям'і, але і добры корм свінням, каровам. Яны прасілі дапамагчы раздабыць хаця б пару мяхоў на насенне. Зрабіць гэта самому калгасніку няпроста. У суседзяў таксама загінула бульба, а везці здалёк надта дорага. Таму цяпер вымятаюць з полак магазінаў крупу, макароны, муку...

Чаму б уладам не наладзіць сюды завоз бульбы з тых раёнаў, дзе яна вырасла? Чаму б не падкінуць у магазіны пацярпелых раёнаў крупу і макароны? Пара падлічыць страты ад стыхіі і падсобіць людзям адрамантаваць дамы і пабудовы.

Але ніхто не чухаецца. Усе пабеглі выконваць загады прэзідэнта па ўборцы ўраджаю і забыліся пра людзей, што пацярпелі ад стыхіі. Таму Федэрацыя прафсаюзаў накіравала ліст у свае пярвічныя арганізацыі і кіраўніку ўрада Лінгу аб аказанні тэрміновай дапамогі пацярпелым.

**Алесь ДРАБЧУК.**

